№№109–110
(3648–3649)

17 ліпеня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



*Светлана* **КАЛИНКИНА**

## Соломатина, отползай!

Если женщины вас демонстративно игнорируют, это уже край. Женщины сговорчивы, потому и для чудовищного, и для никчемного найдется добрая душа, которая пожалеет. Но если они дружно перестали видеть вас в упор, то тут уже не просто дурно пахнет. Это значит, что за тобой — шлейф. И ароматов, и репутации, и сделанного, и несделанного. Это значит, что уже поздно пыжиться, стараться, доказывать, запугивать, ругаться, уговаривать, обманывать, обещать...

Самый большой сюрприз нынешней избирательной кампании пришел оттуда, откуда не ждали. Смирная, верная, преданная, понятливая и по-настоящему родная нынешней власти организация — Белорусский союз женщин — фактически объявила выборам бойкот. Обнародованные списки членов окружных избирательных комиссий принесли сенсацию: крупнейшая женская организация страны отказалась выдвигать своих представительниц в ключевые избиркомы.

И такое случилось впервые.

Правдами или неправдами они уклонились от выполнения, можно сказать, супружеского долга, пока непонятно. Наверняка без скандала. Но какую-то отговорку нашли. "Голова болит", "устала", "слишком много работы"... Хотя раньше все неизменно проходило с воодушевлением и энтузиазмом.

Это ведь обязательный набор для формальной легитимации власти — молодежь, ветераны и женщины. И, конечно, можно говорить, что так или иначе женщины свою лепту в итоговый процент голосования внесут. И что в очередной раз многое будет сделано именно их руками... Но все-таки на этот раз ситуация выглядит принципиально новой.

Сами подумайте. Вот сидит в комиссии дедок. Ну, дедок и дедок. Может, человек одинок совсем, не знает, чем заняться, и выборы для него хоть какое-то развлечение. Или, наоборот, он такой активный, что и семья, и подъезд, и двор уже не знают, куда его сплавить с глаз долой на пару месяцев. Собрали подписи — отправили на выборы.

Это одна история. И совсем другая история — когда товарищ представляет республиканскую ветеранскую организацию. Тут он уже не чудак-человек, а представитель определенной категории избирателей. И уже не только он, но и все его соратники своим авторитетом, жизненным опытом, своими медалями под его "одобрямс" подписываются.

С Союзом женщин тот же подтекст. Какая-нибудь конкретная Марья Ивановна Сидорова может быть странной и чудаковатой, способной кидаться закрывать от наблюдателей бюллетени своими телесами или отрицать законы физики, утверждая, что бюллетени предварительного голосования, вброшенные разными людьми, могут лежать в урне слипшимися стопками. Всякие есть люди, никто особо не удивится: таких Марьиванн, готовых обманывать, химичить, подтасовывать, насыпать соседу соли в компот или украсть цветочки с общественной клумбы — тысячи. Но важное отличие нынешних выборов от всех предыдущих в том, что на этот раз они будут представлять не всех женщин Беларуси, а только самих себя. Белорусский союз женщин как организация от всего этого дистанцировался, не участвует.

Как так получилось?

Первая версия, которая приходит на ум, — создавали "Белую Русь" и разрушили то провластное, что существовало ранее. Власти ведь тоже тасуют одну и ту ж колоду из правильных и преданных. Но, с другой стороны, если уже с Белорусского фонда мира под эти выборы стряхнули пыль и нашли в нем людей почти в каждую окружную комиссию, то у главной женской организации проблем с кадрами не могло возникнуть в принципе. Значит, истинная причина — в репутации. Значит, роман дошел до той стадии, когда Белорусский союз женщин посчитал нужным сделать вид, что с этой властью они не знакомы.

Кто бы мог подумать, как говорится?! Тем более что наши мужчины всегда демонстрировали полную уверенность: женщины в Беларуси из таких смирных и наивных, которые даже порнофильм досмотрят до конца в надежде на то, что все закончится свадьбой.

З-ЗА КРАТАЎ

## *Выпрабаванне карцарам*

Палітзняволены Зміцер Дашкевіч з карцара не выйшаў. Як высвятлілася, падчас знаходжання ў "турэмнай турме" ён атрымаў новае пакаранне яшчэ на некалькі сутак ізаляцыі.

Не выключае, што і 20 ліпеня — свой дзень народзінаў — Дашкевіч будзе сустракаць у карцары. "Дарэчы, як і год таму, бо на трыццацігоддзе Зміцера таксама пакаралі ізаляцыяй, толькі тады — у Горацкай калоніі, — гаворыць Наста Палажанка. — Карцар на дзень народзінаў, на жаль, становіцца для яго нормай".

У карцары зараз знаходзіцца і былы кандыдат у прэзідэнты Мікола Статкевіч. Як Мікалай паведаміў жонцы ў апошнім лісце, ніхто яму нават не паведаміў, за што канкрэтна накладзена спагнанне.

Толькі-толькі выйшаў з карцара Ігар Аліневіч. Яму нават далі магчымасць патэлефанаваць маці.

— Улічваючы, што гэта ўсяго трэці тэлефонны званок ад яго, то гэта было і нечакана, і радасна. Хаця радасна — не зусім тое слова, якое падыходзіць. Бо ў Ігара ўсё адбываецца прыкладна так, як і ва ўсіх астатніх палітзняволеных. Два тыдні таму яму прапанавалі напісаць прашэнне аб памілаванні. Пасля таго як ён адмовіўся, пасадзілі ў карцар. Акрамя таго, паставілі на прафілактычны ўлік. Я запыталася: "Што гэта такое?" Ён патлумачыў — "схільны да нападаў і пабегаў". Ну, што яшчэ яны могуць прыдумаць для нашых дзяцей? — абураецца Валянціна Аліневіч.

Дарэчы, пакуль Ігар Аліневіч знаходзіўся ў карцары, шэфства над ім узяла вядомая дэпутат з Германіі Марылуіза Бек.

***Пашырайце шэрагі падпісчыкаў!***

*Каб атрымліваць "Народную Волю" ў жніўні, аформіць падпіску трэба да 27 ліпеня. Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні, а мінчанам — яшчэ і ў спецыялізаваных пунктах "Белсаюздруку".*

ГРЫМАСЫ

## *Дамовіліся: кожны сам за сябе*

Мэтазгоднасць зняцця кандыдатаў у выпадку невыканання уладай раней вылучаных патрабаванняў будзе разгледжана кожным суб'ектам дэмакратычнай кааліцыі самастойна і з улікам меркавання саміх кандыдатаў.

Такое рашэнне прынята падчас чарговага раунда кансультацый палітычных сіл, якія прымаюць удзел у парламенцкай кампаніі.

У кансультацыях бралі ўдзел прадстаўнікі руху "За Свабоду!", Партыі БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), беларускай партыі левых "Справядлівы свет", аргкамітэта грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!".

Удзельнікі кансультацый дамовіліся толькі аб каардынацыі працэсу вылучэння прадстаўнікоў у сябры выбарчых камісій усіх узроўняў, а таксама аб арганізацыі працэсу назірання за ходам галасавання і падліку галасоў. Акрамя таго, прынята рашэнне аб скаардынаваным вядзенні ў выбарчых акругах растлумачальнай работы з грамадзянамі аб неабходнасці поўнамаштабнай палітычнай і эканамічнай рэформы ў Рэспубліцы Беларусь, абароны дзяржаўнага суверэнітэту, а таксама спынення палітычных рэпрэсій і вызвалення ўсіх палітвязняў.

### Замест каментарыя

**Зноў апазіцыя наступае на адны і тыя ж граблі — хто ў лес, а хто па дровы... А ўладам гэта толькі і трэба. У мутнай вадзе рыбка лягчэй ловіцца.**

ФОТАФАКТ

Падчас "Славянскага базару" ў Віцебску па-за ўвагай журналістаў засталася падзея, якая звязана з адным з самых багатых людзей Беларусі.

Пад гукі духавога аркестра адбылося афіцыйнае адкрыццё бізнес-цэнтра "Марка-сіці". Сімвалічную чырвоную стужачку перарэзалі намеснік старшыні аблвыканкама Алег Мацкевіч, архіепіскап Віцебскі і Аршанскі Дзімітрый і дырэктар СТАА "Марка" Мікалай Мартынаў. Ён на мерапрыемства прыйшоў у беларускай вышыванцы і з маленькай унучкай.

Год таму чатырохгадовая Насця шакавала дзеда сваёй бізнес-хваткай. *"Мы з ёй пайшлі на новабудоўлю,* — расказваў Мікалай Мартынаў. *— Малая, падышоўшы бліжэй, уважліва акінула поглядам незвычайную па сваім архітэктурным выкананні канструкцыю — ад востравугольнага даху да падмурка — і заявіла: "Паслухай, дзед... Падары-ка ты мне гэтую піраміду!" Але потым, паглядзеўшы на мой відавочна збянтэжаны твар, паблажліва паведаміла: "Ну, добра, дзядуля, не хвалюйся. Будзем тут пакуль разам працаваць..."*

Таму не выключана, што гэтым разам у Віцебску сенатар і бізнесмен Мікалай Мартынаў першы раз вывеў у людзі будучую пераемніцу свайго бізнесу.



СЕНСАЦЫЯ!



## Афіцэр беларускай міліцыі Сяргей Макар папрасіў прытулку на Захадзе

*Супрацоўнік міліцыі Кастрычніцкага раёна Гродна Сяргей Макар вымушаны шукаць прытулак за межамі краіны. Яго начальства, магчыма, яшчэ не ведае, што падначалены больш не вернецца на службу. Апошні раз ён быў у сваім службовым кабінеце ў чацвер 12 ліпеня.*

***(Працяг на 2-й стар.)***



АНОНС

*Нужна ли человеку свобода? Этот философский вопрос, казалось, давно решенный в христианской культуре, в Беларуси вновь стал актуальным после последнего послания Александра Лукашенко парламенту и белорусскому народу. В послании неожиданно прозвучало: "Нет для человека ничего невыносимее свободы..." И сама мысль о том, что в наше время могут рождаться идеологические концепции, преподносящие несвободу как благо, заставила самых разных людей взяться за перо.*

*Среди них оказался и доктор сельскохозяйственных наук, профессор, лауреат Государственной премии Михаил Кадыров.*

## Церковь молчащая

*В последнем послании главы государства белорусскому народу и парламенту прозвучала и оставила неравнодушными многих людей фраза: "Нет для человека ничего невыносимее свободы". По меньшей мере странно, если не зловеще выглядит тот факт, что из необъятного наследия Федора Михайловича Достоевского выбрана именно эта эпатажная "темная" фраза.*

*(Продолжение на стр. 5—6.)*

### Михаил Анатольевич КАДЫРОВ



**Родился в 1951 году в городе Ельске Гомельской области. С отличием окончил Белорусскую сельскохозяйственную академию, ученый-агроном. Доктор сельскохозяйственных наук, профессор, лауреат Государственной премии в области науки и техники, академик Украинской АН, являлся членом ВАК и членом Совета Республики 2-го созыва. Создатель более 20 сортов белорусского ячменя. Имеет двоих сыновей и шестерых внучат. Всю жизнь проработал в Институте земледелия и селекции НАН Беларуси. Прошел путь от младшего научного сотрудника до директора института. В настоящее время — первый заместитель генерального директора РУП "Научно-практический центр НАН Беларуси по земледелию".**

ДЫПКУР'ЕР



## *Іронія Мішэля Рэнеры*

*Сваю прамову на прыёме, прысвечаным нацыянальнаму святу Францыі — Дню ўзяцця Бастыліі, — пасол гэтай краіны ў Мінску Мішэль Рэнеры чытаў у асноўным па-беларуску.*

Прамова была дыпламатычная, але не ардынарная.

"У гэтым годзе мы святкуем дзве значныя гадавіны: пяцідзесяцігоддзе франка-нямецкага сяброўства і дваццацігоддзе ўсталявання дыпламатычных адносін паміж Францыяй і Беларуссю. Вялікі дзякуй вам, дарагія беларускія сябры! На жаль, сення ў гэтай зале вас не так шмат, як я таго жадаў бы. Некаторыя не змаглі прыйсці па незалежных ад іх абставінах. Адсутнасць іншых адлюстроўвае сучасны стан адносін паміж Беларуссю і Еўрасаюзам. Мне было б прыемна, каб прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў передалі мае прывітанне міністру Сяргею Мартынаву, прафесіяналізм якога выклікае ў мяне павагу. Мне крыўдна за тых, каму было забаронена тут прысутнічаць, і мне шкада тых, хто пабаяўся прыйсці, каб не рызыкаваць сваей кар'ерай.

А ўсім тым, хто без страху лічыць, што сяброўскія адносіны з Францыяй важней часовых палітычных абставін, я вельмі ўдзячны. Асобна вітаю прадстаўнікоў розных рэлігійных канфесій, якія з'яўляюцца сімвалам талерантнай і міралюбівай Беларусі".

КОМПЕТЕНТНЫЙ СОБЕСЕДНИК

# А вы, друзья, как ни садитесь...

*Новый тренд белорусской власти в управлении предприятиями — создание холдингов. Одни считают, что это попытка за счет более сильных предприятий вытянуть более слабые, другие называют происходящее началом реформ. Что происходит на самом деле?*

*На вопросы "Народной Воли" отвечает Василий ШЛЫНДИКОВ, бывший президент концерна "Амкодор".*

**— В последнее время во властных структурах стало модным слово "холдинг". На днях правительством принято решение о создании холдингов "Белорусская металлургическая компания" и "Белстанкоинструмент". По вашему мнению, это начало реформы в промышленности?**

— Нет, конечно. К проблемам адаптации промышленности к рыночным условиям комплексного подхода нет. Он даже не обозначен. Видимо, жизнь требует что-то делать. Вот и делают, как умеют. Безусловно, холдинги являются важной формой объединения предприятий, но далеко не единственной. Попытка создать законодательную основу для функционирования хотя бы холдингов — это уже прогресс. Но пока в основном наблюдаем практику присоединения слабых предприятий к более сильным, называя это холдингами. Здесь будет положительный эффект только тогда, когда есть чему учиться у сильного. Аналогичная практика существовала в Советском Союзе. Она позволяла как-то существовать и поддерживать на плаву промышленность страны. Мне пришлось в свое время управлять таким промышленным объединением. Знаю из собственного опыта, что такое объединение предприятий может быть полезным, но консервация советской структуры управления неизбежно ведет к потере конкурентоспособности.

**— И все-таки, что вы думаете о целесообразности создания именно этих холдингов?**

— Вреда, думаю, не будет. Но и пользы тоже, если структура холдингов не будет соответствовать рыночным условиям. Давайте попробуем проанализировать ситуацию на примере холдинга "Белстанкоинструмент". Я очень хорошо знаю заводы, которые предполагается включить в его состав. В советское время это были лучшие станкостроительные заводы страны. Сейчас большинство из них еле дышат, и то благодаря пенсионерам. Поражаюсь оперативности работы правительственных структур, которые, почти похоронив целую отрасль нашего отечественного машиностроения, вдруг вспомнили, что у нас есть такие заводы, как завод им. Кирова, Октябрьской революции, автоматических линий и другие. Но даже в этих условиях, объединив активы этих предприятий, можно, на мой взгляд, возродить станкостроение республики. Для этого, извините за повтор, нужна рыночная структура управления холдингом.

**— Это что значит? Как бы вы организовали этот холдинг?**

— Я бы начал с названия. "Белстанкоинструмент" — хорошее советское название. Но давайте представим, что это название нужно запомнить немцам, англичанам, туркам или китайцам. Большинство из них никогда не выговорят этого слова, и никогда не запомнят этот бренд. Нужно короткое, красивое слово, как у известных фирм: "Рено", "Опель", "Либхер", "Тойота", "Мазда". Или взять "Амкодор". Это все бренды, а не просто названия ради названия.

Не думаю, что управляющей компанией следовало назначать ОАО "МЗОР". В свое время при назначении меня на должность генерального директора НПО "Дормаш" обсуждался вопрос, какое из предприятий объединения следует сделать головным? Выбор пал на СКБ "Дормаш", а не на завод "Ударник". У директора завода столько проблем, что некогда думать о развитии объединения. В данном случае, согласитесь, надо создавать единый организм производственного объединения. У МЗОР своих проблем выше крыши. Я не слышал в последнее время о производственных успехах этого, когда-то прославленного, завода. И принцип "делай, как я" в данном случае не сработает.

Я бы назначил управляющей компанией вновь созданное юридическое лицо, централизовав конструкторские разработки, продажу, логистику, сервисное обслуживание и некоторые другие функции. Передал бы часть из этих функций управляющей компании или возложил бы их на вновь созданные предприятия. Целесообразность того или иного варианта следует определять после анализа законодательства. Если нужно для будущего успеха, то попросил бы правительство внести некоторые изменения в законодательство.



Следующий шаг, на мой взгляд, — это нужно избавиться от ненужных имущественных комплексов, продав все, что можно. На базе оставшихся создать различные ОАО, ЗАО, ООО и т.д.

Но для того, чтобы создать такую структуру, превратить объединение заводов в высокоэффективную компанию, нужны очень опытные высокообразованные руководители, прошедшие обучение за рубежом, лучше всего в Германии. Это должны быть в основном молодые люди в возрасте 35—45 лет со знанием иностранных языков. Желательно, чтобы возглавил холдинг не просто опытный, а талантливый организатор производства. Было бы неплохо, чтобы с командой управленцев холдинга (а это 5—7 человек) был заключен договор о доверительном управлении, с передачей им доли прибыли холдинга. Следует подумать и о мотивации менеджеров высшего звена предприятий, входящих в холдинг. И успех будет.

**— Кто, на ваш взгляд, мог бы реализовать такой проект из известных вам руководителей предприятий?**

— Я бы обратился с просьбой возглавить этот холдинг к Михаилу Васильевичу Леонову, бывшему генеральному директору МТЗ. И если у него осталось здоровье после многолетнего тюремного заключения, и он согласился бы, то успех был бы возможен.

Хотя я не знаком с действующими директорами предприятий, входящих в холдинг "Белстанкоинструмент". Возможно, среди них есть руководитель, способный создать высокоэффективную компанию. Ну а пока вся надежда на возрождение станкостроения республики возложена на ОАО "МЗОР" и его руководителя. Могу только пожелать ему успеха.

**Елена СВИРСКАЯ.**

## ДОСЬЕ

### *Шлындиков Василий Михайлович*

Родился 1 сентября 1947 года в деревне Мадора Рогачевского района Гомельской области.

Окончил Белорусский политехнический институт (1970), Институт персонала и управления (1991, Бонн, Германия). Академик Белорусской инженерной технологической академии. Работал мастером, начальником смены, заместителем начальника цеха Минского подшипникового завода (1970-1978), заведующим промышленно-транспортным отделом Заводского райкома КПБ г. Минска, инструктором отраслевого отдела Минского обкома КПБ (1978-1986), директором Минского завода "Ударник" (1986—1990), генеральным директором Научно-производственного объединения "Дормаш", президентом концерна "Амкодор" (1990-1996).

Президент общественного объединения "Ассоциации содействия экономическому развитию" (с 1997).

Депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва, председатель Комиссии по экономической политике и реформам. Автор многочисленных статей по проблемам экономической политики.

Член Объединенной гражданской партии Беларуси.

Первым в Беларуси провел акционирование и переход на рыночную организационную структуру крупного машиностроительного объединения (концерн "Амкодор").

Женат, двое детей, две внучки.

ВІЗІТ

# *Мядзведзеў збіраецца ў Мінск*



*18 ліпеня ў Мінску пад старшынствам прэм'ер-міністра Расіі Дзмітрыя Мядзведзева адбудзецца пасяджэнне Савета міністраў саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.*

Пра гэта паведаміў на брыфінгу дзяржсакратар саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота, які ўжо знаходзіцца ў сталіцы Беларусі і ўзгадняе апошнія арганізацыйныя моманты мерапрыемства.

Паводле слоў Рыгора Рапоты, усяго ў парадак дня пасяджэння саюзнага саўміна ўключана каля двух дзясяткаў пытанняў. Сярод іх пытанне пра льготны праезд пенсіянераў у транспарце і доступ да сакрэтнай інфармацыі для грамадзян абедзвюх краін.

СІТУАЦЫЯ

# *Маленькая перамога?*

*Амаль год Святлана Вяргейчык спрабуе ўзбудзіць крымінальную справу на міліцыянераў, якія нанеслі ёй цялесныя пашкоджанні.*

Пракуратура Мінска разгледзела скаргу жыхаркі сталіцы Святланы Вяргейчык на пастанову Кастрычніцкага райаддзела Следчага камітэта аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце прычынення ёй цялесных пашкоджанняў супрацоўнікамі міліцыі падчас маўклівай акцыі пратэсту летам 2011 года, паведамляе spring96.org.

Праверка высветліла, што вышэйзгаданая пастанова адменена намеснікам начальніка Упраўлення Следчага камітэта па Мінску, а матэрыялы накіраваны для арганізацыі дадатковай праверкі начальніку Партызанскага раённага аддзела СК.

Раней Пракуратура Кастрычніцкага раёна сталіцы не знайшла падстаў для прыцягнення міліцыянераў да крымінальнай адказнасці, хоць і прызнала факт парушэння імі патрабаванняў ПВКаАП Рэспублікі Беларусь і Закона "Аб органах унутраных спраў Рэспублікі Беларусь". У выніку з супрацоўнікамі міліцыі грамадскай бяспекі УУС Кастрычніцкага раёна будуць праведзены дадатковыя заняткі аб парадку і ўмовах прымянення фізічнай сілы, прыёмаў барацьбы, падручных сродкаў, для прадухілення адміністрацыйных правапарушэнняў і вядзення адміністрацыйнага працэсу.

Не задаволіўшыся такім рашэннем, Вяргейчык склала скаргу ў Следчы камітэт Кастрычніцкага раёна Мінска з просьбай правесці дадатковую праверку. Там узбуджаць крымінальную справу таксама адмовіліся. Рашэнне прымаў старэйшы следчы СК Кастрычніцкага раёна Н.Н.Пудаў. Цікава, што сваё рашэнне ён узгадняў з непасрэдным начальнікам — А.В.Пазняком — тым самым былым міліцыянерам, якога яна патрабуе прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.

У сувязі з гэтым спадарыня Вяргейчык падрыхтавала скаргу ў пракуратуру г.Мінска з просьбай адмяніць пастанову следчага Пудава аб адмове ва ўзбуджэнні крымінальнай справы. А таксама паўторна накіраваць матэрыялы праверкі ва ўпраўленне Следчага камітэта РБ па г.Мінску.

І вось зараз з-за ўмяшальніцтва Гарадскога следчага камітэта і гарадской пракуратуры пенсіянерка дамаглася, каб праверку праводзілі іншыя следчыя, а не тыя, хто збіваў яе год таму.

З-ЗА КРАТАЎ

*Яўген ВАСЬКОВІЧ:*

# «Жыццё кароткае, а радзіма — вечная»

Палітвязню Яўгену Васьковічу двойчы прапаноўвалі напісаць прашэнне аб паміласванні, але ён адмовіўся.

Пра гэта ён паведаміў у лісце да сяброў аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" з Бабруйска. Дарэчы, і сам Яўген да арышту з'яўляўся прыхільнікам ідэй БХД.

*"Мой гонар і гонар маёй Айчыны даражэй за ўсё",* — так Яўген патлумачыў сваю адмову пісаць прашэнне аб паміласванні. *"Галоўнае — годнасць, астатняе — пыл",* — адзначыў ён.



Як чалавек веруючы, Яўген верыць, што Бог на яго баку. Як вынікае з ліста да сяброў, здароўе ў яго добрае, настрой файны, Васьковіч прасіў за яго не хвалявацца.

Скончыў ліст Яўген словамі, прамоўленымі ім на судзе ў маі 2011 года: "Я — ліцвін. Мой святы абавязак — бараніць нацыянальныя беларускія каштоўнасці. За іх я ўмерці гатовы, бо жыццё кароткае, а радзіма вечная. Жыве Беларусь!"

Пагадзіцеся, калі чытаеш гэтыя словы, то адразу ловіш сябе на думцы: "Адкуль яны бяруцца, такія хлопцы?"

Яўгену ўсяго 22 гады. Родам ён з сям'і рабочых. Вучыўся завочна на журналісцкім аддзяленні філалагічнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова. Працаваў у газеце "Бобруйский курьер", у свой час быў сябрам незарэгістраванага "Маладога фронту", апошнім часам з'яўляўся сябрам таксама незарэгістраванай партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя.

Нягледзячы на маладыя гады, хлопец мае "палітычную біяграфію". Балатаваўся ў Бабруйскі гарсавет, быў збіты супрацоўнікамі міліцыі за тое, што на "Бабруйск-Арэне" падчас хакейнага матча Беларусь—ЗША разгарнуў бел-чырвона-белы сцяг. Падчас прэзідэнцкай кампаніі 2010 года з'яўляўся сябрам ініцыятыўнай групы кандыдата ў прэзідэнты Віталя Рымашэўскага. За ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня 2010 года быў затрыманы і асуджаны да 12 сутак арышту.

Напэўна, тое, што адбывалася ў нашай краіне, проста перапоўніла нейкую чашу цярпення маладога чалавека. У выніку 18 мая 2011 года Яўген быў асуджаны паводле ч.2 арт.339 (злоснае хуліганства) і ч.3 арт.218 (наўмыснае знішчэнне альбо пашкоджанне маёмасці ў асабліва буйных памерах) Крымінальнага кодэкса разам з Арцёмам Пракапенкам і Паўлам Сырамолатавым на 7 гадоў пазбаўлення волі за спробу падпалу будынка Бабруйскага КДБ. На самай справе хлопцы кінулі бутэльку з гаручай сумессю ў дзверы КДБ, будынак не загарэўся, пажару не адбылося, але вось такое жорсткае пакаранне.

На судзе Яўген заявіў, што не шкадуе аб зробленым. Вось тады і прагучала ў першы раз з яго вуснаў: *"Я — ліцьвін... Жыццё — кароткае, Радзіма — вечная..."*

Спачатку Яўген адбываў пакаранне ў Магілёўскай калоніі №15, але ў кастрычніку 2011 года яго перавялі на больш жорсткі рэжым у Магілёўскую турму №4. Ён неаднаразова трапляў у штрафны ізалятар за непадпарадкаванне кіраўніцтву калоніі.

Паводле ацэнкі праваабаронцаў, у дзеяннях Яўгена Васьковіча, Паўла Сырамолатава і Арцёма Пракапенкі сапраўды "ўглядаюцца прыкметы правапарушэння, але адзначаем несправядлівую кваліфікацыю іх дзеянняў і празмернасць вынесенага пакарання. Лічым, што яны адбылі ўжо дастатковае пазбаўленне волі для здзейсненага ўчынку і ўтрыманне надалей іх у зняволенні трэба лічыць палітычна матываваным".

**Ігар МАРОЗАЎ.**

## ДАРЭЧЫ

***Кожнаму, хто знаходзіцца за кратамі, вельмі важна пачуць словы падтрымкі. Нагадваем адрасы тых, каго міжнародная супольнасць і беларускія праваабаронцы лічаць палітвязнямі.***



**Мікалай Дзядок**

213004, Магілёўская вобл., г.Шклоў, ПК-17.



**Алесь Бяляцкі**

213807, Магілёўская вобл., г.Бабруйск, вул.Сікорскага, 1, Папраўчая калонія №2, атрад №14.



**Аляксандр Францкевіч**

225295, Брэсцкая вобл., г.Івацэвічы, "Воўчыя норы", а/я 20, папраўчая калонія №22.



**Сяргей Каваленка**

213030, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19.



**Ігар Аліневіч**

211440, Віцебская вобл., г.Наваполацк, вул.Тэхнічная, 8, папраўчая калонія №10.



**Эдуард Лобаў**

225295, Брэсцкая вобл., г. Івацэвічы, "Воўчыя норы", а/с 20, папраўчая калонія №22.



**Яўген Васьковіч**

212011, г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4.



**Мікола Статкевіч**

212011, г.Магілёў, вул.Крупскай, 99а, турма №4.



**Арцём Пракапенка**

212013, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 183, ПК №15.



**Зміцер Дашкевіч**

211791, Віцебская вобл., г.Глыбокае, вул.Савецкая, 205, папраўчая калонія №13.



**Павел Сырамолатаў**

213030, г.Магілёў, Слаўгарадская шаша, 3 км, ПК №19.



**Павел Севярынец**

225143, Брэсцкая вобл., Пружанскі р-н, в.Куплін, ПУАТ-7.



**Мікалай Аўтуховіч**

230023, г.Гродна, вул.Кірава, 1, турма №1.

СЕНСАЦЫЯ!

# Афіцэр беларускай міліцыі Сяргей Макар папрасіў прытулку на Захадзе

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

Што прымусіла афіцэра, прадстаўніка ўлады, які верай і праўдай праслужыў спачатку ў АМАПе, а потым у аддзеле міліцыі 15 гадоў, усё кінуць і ехаць за кардон?

Пасля гутаркі з міліцыянерам стала зразумела, што прэзідэнцкія выбары ў нашай краіне адбіваюцца на лёсах не толькі апазіцыянераў, але і на тых, на каго б мы падумалі ў апошнюю чаргу. Сяргей Макар адчуў на сабе ціск з боку спецслужб восенню 2006 года. Тады да яго прыйшлі двое. Адзін прадставіўся супрацоўнікам КДБ, другі — моўчкі слухаў, назіраў і не сказаў ні слова. Сяргей Макар прыгадвае:

— Мой брат Ігар служыў у "Алмазе". Ён адразу пасля выбараў быў вымушаны хавацца, каб ўратаваць сваё жыццё. Справа ў тым, што ён не выканаў загады міністра Навумава па кампраментацыі Аляксандра Казуліна як кандыдата на пасаду прэзідэнта. Пасля гэтага Ігар даведаўся, што група, камандзірам якой ён з'яўляўся, атрымала загад наконт яго самога. Не выключаю, што гэта магло азначаць нават банальнае забойства. Па крайняй меры былым падначаленым Ігара сказалі, што выкананне загаду стане для іх сапраўднай праверкай. І так апрацавалі, што толькі адзін з усіх за некалькі хвілін пазваніў Ігару і крыкнуў: "Не ідзі туды, дзе цябе чакаюць!" Магчыма, дзякуючы гэтаму, Ігар сёння жывы. Мне супрацоўнік КДБ прапанаваў выклікаць у краіну брата з любой нагоды. Яны разлічвалі з маёй дапамогай заманіць яго ў лавушку. Натуральна, я катэгарычна адмовіўся, і тады мне былі абяцаны праблемы па службе. Яны не прымусілі сябе чакаць. Кадэбэшнікі мяне ў спакоі не пакінулі, сустракаліся яшчэ некалькі разоў... Потым узяліся за сястру. Неяк Вольгу прывезлі ў аддзел міліцыі, абражалі, здзекаваліся з яе, пагражалі, што з яе дзіцём нешта здарыцца. Доўжылася гэта некалькі гадзін.

**— А вы не маглі ўмяшацца? Вы ж працавалі ў тым аддзеле?**

— Мяне тады не было ў аддзеле, і я нічога не ведаў. Але вы думаеце, што ўмяшацца ўвогуле ў нешта магчыма? Вы не ведаеце, да якой ступені ўсё дэградавала. Я спрабаваў умяшацца ў адну падобную сітуацыю. Нядаўна было. Прыйшоў у аддзел, гляджу — за шклянымі дзвярыма ў дзяжурнай частцы плача голая жанчына. Уся скруцілася, каб прыкрыцца... Высветлілася, што яна шла з працы і ўбачыла на зямлі мужчыну. Той прасіў дапамагчы яму падняцца. Яна толькі падышла да яго, як побач спынілася машына з ППСнікамі. А ў іх план па п'яніцах. Яны схапілі і мужчыну, і гэтую маладую жанчыну. Мужчыну накіравалі ў выцвярэзнік, але і на яе склалі пратакол, што была п'яная і лаялася матам. Яна падпісваць паперы адмовілася. Вось тады яе распранулі, збілі і пасадзілі ў пакой з празрыстымі дзвярыма. Я зняў гэта на відэа, падышоў да дзяжурнага: "Ты не бачыш, што ў цябе жанчына голая? Што тут адбываецца?". А ён: "А што я магу зрабіць? Ёсць старшы афіцэр і ён гэтым займаецца". Вакол былі адны мужчыны і ніхто нават не паспрабаваў умяшацца. Потым гэту жанчыну даставілі ў суд. А суд яе, як ні дзіўна, апраўдаў.

**— Гэта адзінкавы выпадак ці такія рэчы часта адбываюцца?**

— Гэтая карціна адлюстроўвае сітуацыю ва ўсёй сістэме. Ілжывыя пратаколы, ілжэсведчанні ў судах.... Усё стала магчымым пасля таго, як міліцыя паступова перестала выконваць сваю асноўную функцыю і занялася палітычным сыскам, каб абслугоўваць рэжым. А для гэтага ўсе сродкі апраўданыя. Фальсіфікацыі, якія адбываюцца на выбарах, далі глебу для ілжы ва ўсіх сферах.

**— Вы былі сведкам такіх фактаў падчас выбараў?**

— Мяне задзейнічалі на выбарах і ў 2006-м і ў 2010-м гадах. У 2006-м я быў на закрытым участку ў вайсковай часці. У першы дзень датэрміновага галасавання салдаты ішлі калонай па аднаму з ужо запоўненымі бюлетэнямі. Кідалі іх у скрыню, а потым распісваліся ў журнале. У 2010-м я працаваў на ўчастку ў гандлёвым каледжы. Там студэнтаў адміністрацыя па раскладзе прыводзіла галасаваць датэрмінова, каб потым адпусціць на выхадныя. Скрыню з бюлетэнямі на ноч забіралі некуды ў асобны пакой. Але была яшчэ маленькая скрыня, яе вывозілі да інвалідаў. Ніхто з тых, да каго мы прыходзілі, не хацеў галасаваць за Лукашэнку. Людзі казалі: "Не, ужо хопіць!" І ўвогуле, абураліся, казалі, што жыць стала значна горш. Але так здарылася, што на гэтым участку жыве шмат інвалідаў па зроку. Члены камісіі за іх запаўнялі бюлетэні і, не зважаючы на тое, за каго чалавек прасіў прагаласаваць, ставілі "галачку" Аляксандру Лукашэнку.

**— А самі супрацоўнікі міліцыі давяраюць уладам?**

— Супрацоўнікі праваахоўных органаў лепш, чым хто-небудзь, ведаюць рэальную цану заявам. І пра тую ці іншую элегантную перамогу на выбарах, і па гучных справах. Пасля выбуху ў мінскім метро, зразумела, што ўсе абмяркоўвалі гэтую тэму. І я асабіста не ведаю ніводнага супрацоўніка, які б паверыў у віноўнасць расстраляных Кавалёва і Канавалава.

**— Тым не менш вы служыце ў праваахоўных органах і маеце ўзнагароды.**

— Я служыў 15 гадоў. Спачатку ў АМАПе, потым у аддзеле міліцыі Кастрычніцкага раёна Гродна. Я заўсёды імкнуўся быць прыкладам для сваіх саслужыўцаў, заўсёды быў наперадзе. Але за апошнія гады так упаў аўтарытэт сілавых структур, што некаторым сорамна прызнавацца, дзе яны працуюць. Самае непрыемнае, што міліцыю прымусілі займацца неўласцівай ёй функцыяй — палітычным вышукам. У маім Кастрычніцкім раёне створана база, у якой звесткі пра 79 асоб, якія нелаяльна ставяцца да ўлады. Іх узрост ад 14 да 45 гадоў. Гэта людзі, якіх заўважылі некалі на апазіцыйных акцыях. Перад акцыямі іх трэба наведаць, узяць распіскі, што яны папярэджаны і не будуць хадзіць на тое ці іншае вулічнае мерапрыемства. Натуральна, што не сама міліцыя з'яўляецца ініцыятарам усяго гэтага. Брыдка гэта. Менавіта апошнім часам я стаў задумвацца пра сваю ролю ў гэтай сістэме. Канешне, можна было б ціха даслужыцца да пенсіі і звольніцца. Але гэта азначае зноў удзельнічаць у фальсіфікацыях, у розных гнюсных справах. Не хачу.

...Капітан міліцыі Сяргей Макар ужо двое сутак знаходзіцца за мяжой. Ён патлумачыў, што вымушаны быў з'ехаць з меркаванняў асабістай бяспекі.

**Любоў ЛУНЁВА.**

БЕЛАРУСЬ У АСОБАХ

*Лёсы дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га склікання — сябраў Беларускага Народнага Фронту*

# Галіна Сямдзянава



Галіна Сямдзянава.

## *«Не пушчу...»*

Яна ўпершыню ўнесла бел-чырвона-белы сцяг у Авальную залу Вярхоўнага Савета БССР і адной з першых за гады савецкай улады кінула адкрыты выклік лідару мясцовых камуністаў. Усё гэта адбылося ў адзін дзень — 24 жніўня 1991 года, які стаў зорным для Галіны Сямдзянавай.

Уся краіна ўбачыла гэтую легендарную жанчыну дзякуючы прамой тэлетрансляцыі пасяджэнняў з Дома ўрада, дзе адкрылася нечарговая V сесія Вярхоўнага Савета БССР 12-га склікання.

Ёй вельмі не падабалася легенда пра тое, што яна нібыта сагнала з трыбуны першага сакратара ЦК КПБ, дэпутата Вярхоўнага Савета СССР Анатоля Малафеева. Сама яна так распавядала сябрам пра гэты выпадак:

*"Пасля правалу путчу ў Маскве абстаноўка ў Авальнай зале Вярхоўнага Савета БССР была вельмі напружаная. І калі Анатоль Малафееў, які адкрыта падтрымаў путчыстаў, пайшоў да трыбуны, маладыя дэпутаты ад апазіцыі БНФ кінуліся да яго з шалёнымі вачыма, гатовыя пабіць. Стала страшна, што зараз пачнецца бойка. Стаць паміж імі, каб развесці, я не магла, бо мяне папросту размазалі б. І тады я падскочыла да трыбуны, стала спінаю да мікрафона, схапілася рукамі ззаду за трыбуну і вырашыла ні ў якім разе нікога да мікрафона не падпускаць. І калі пачула ад Малафеева "Пусціце", адказала: "Не пушчу". Але я яго з трыбуны не зганяла, бо варта яму было толькі адзін раз махнуць рукою, ляцела б я..."*

*А вось як успамінае пра гэтую падзею каардынатар апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га склікання* ***Сяргей Навумчык:***

— Пасля путчу, які падтрымаў Малафееў, мы, дэпутаты, якія ішлі на выбары ад Беларускага Народнага Фронту, запатрабавалі неадкладнага склікання надзвычайнай сесіі. Крыху больш чым за суткі (дзень—ноч—дзень) падрыхтавалі пакет законапраектаў аб абвяшчэнні незалежнасці. 24 жніўня пачалася сесія — і практычна ўсе нашы прапановы камуністычная большасць ігнаравала. Тое, над чым мы напружана працавалі, знішчалася простым арыфметычным вынікам галасавання. Прэзідыум Вярхоўнага Савета планаваў завяршыць сесію да вечара. У нейкі момант з гасцявога сектара ўзняўся Малафееў і гэтак вальяжна, па-гаспадарску даў адмашку старшыні Вярхоўнага Савета Мікалаю Дзямянцею — маўляў, зараз выступлю я. Малафееў не быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, але як народны дэпутат СССР меў права выступіць на сесіі. Але ён нагэтулькі запэцкаў сябе падтрымкай хунты, што гэты ягоны вальяжны выхад выклікаў у нас абурэнне. Мы, некалькі дэпутатаў (Мікалай Крыжаноўскі, Валянцін Голубеў, Аляксандр Шут, Ігар Гермянчук, Яўген Глушкевіч, Барыс Гюнтэр, Віктар Ганчар, Іван Герасюк, Павел Холад і я), не згаворваючыся, рванулі да трыбуны. Проста пачалі крычаць: "Вон! Пайшоў вон!" А Галіна Сямдзянава кінулася на трыбуну і стала паміж Малафеевым і мікрафонам. Папросту яна не дала яму магчымасці гаварыць. Там яшчэ быў дэпутат Аляксандр Лукашэнка, але ён угаворваў не чапаць першага сакратара. Канешне, ніхто б з нас Малафеева не біў, але калі б ён не сышоў — пад белы ручкі сцягнулі б. Але ён сам сышоў. Гэта быў пераломны псіхалагічны момант на сесіі — камуністы ўбачылі, што іх бос "здзьмуўся" і яны апынуліся без лідара. Мы пачалі перамагаць, нашы прапановы прымаліся. Два ключавыя эпізоды былі на той сесіі — выгнанне з трыбуны Малафеева, якое пераламіла ход сесіі 24 жніўня, і выступленне Пазьняка 25 жніўня перад галасаваннем за незалежнасць, якое пераламіла ход беларускай гісторыі. І тое, і другое было экспромтам, але далёка не выпадковым. Тое, што казаў Пазьняк, было выпакутавана ім за ўсё жыццё (не забудзем, што ён выхоўваўся ў сям'і на ідэалах беларускай незалежнасці), ён быў інтэлектуальна і псіхалагічна гатовы да такога выступлення. Гэтак і Галіна, якая яшчэ за секунду да выхаду Малафеева сядзела на сваім месцы, па сваім рашучым характары, па сваёй прынцыповасці, па перакана용нях была гатовая зрабіць тое, што зрабіла.

## *Яе выбар*

*Успамінае палітык* ***Вінцук Вячорка:***

— Узыход зоркі Галіны Сямдзянавай як адважнага і неардынарнага чалавека, вядома ж, звязаны з гэтым эпізодам. Як птушка абараняе сваё гняздо, так і яна абараняла сваю праўду. І Малафееў, і ўсе іншыя былі ўражаны яе паводзінамі, і ён саступіў. Цяпер нешта падобнае ўявіць цяжка, бо былі б адразу ўведзены амапаўцы і, не зважаючы на тое, хто перад імі, аддубасілі б і павалаклі. Зрэшты, тады таксама было няясна, хто і як сябе можа павесці.

Мае першыя ўражанні пра Галіну Сямдзянаву былі звязаны з тым, як яна спасцігла ідэалы беларускага нацыянальнага адраджэння. Мяне як мовазнаўцу ўразіла, як яна, не будучы гуманітарыем па адукацыі, дзяўчына з украінска-рускім паходжаннем, якая вырасла ў рускамоўнай сям'і вайскоўцаў, вывучыла беларускую мову і перайшла на яе тады, калі гэта не мела абсалютна ніякіх кан'юнктурных выгод. Гэта было ўжо у Вярхоўным Савеце, калі яна пазнаёмілася з намі — бэнэфаўцамі. І гэта быў яе валявы выбар. Як педагог, я разумею, наколькі гэта было цяжка, але яна, мабілізаваўшы волю, пайшла на гэта і вывучыла нашу, беларускую, мову.

Так, яна вырасла ў сям'і вайскоўцаў, якія ездзілі па ўсім былым Савецкім Саюзе. Ужо потым я даведаўся, што з дзяцінства ў яе засталіся цёплыя ўспаміны пра добрых людзей Беларусі, дзе кароткі час з бацькамі яна была пасля вайны. Вось чаму пасля заканчэння інстытута яна свядома выбрала Беларусь сваім домам. Яшчэ яна ўспаміналa сямейныя вечары, падчас якіх бацька чытаў ёй класічную літаратуру. Вось у такой атмасферы, у сям'і інтэлігентнага афіцэра ўзгадавалася вельмі адукаваная і адказная дзяўчына.

У 2007 годзе Сямдзянава была сябрам Цэнтральнай камісіі па выбарах і рэспубліканскіх рэферэндумах, у 2010 годзе — членам Мінскай гарадской камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. І ад іх сябраў даводзілася чуць, што калі ў камісіі паступалі подпісы за кандыдатаў ад Партыі БНФ, то іх можна не правяраць. Бо сябры камісій ведалі, што калі адказная за чысціню подпісаў Галіна Георгіеўна — мыш не магла праскочыць. Яна зыходзіла з таго, што нельга змагацца з амаральнай уладай амаральнымі метадамі. Усе нашыя подпісы, якія праходзілі праз яе рукі, былі ідэальнымі.

Вось які мог быць старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі нашай краіны! І не толькі. Яна карысталася вялікім аўтарытэтам сярод нашых вайскоўцаў. І не таму, што вырасла ў сям'і высокапастаўленага вайскоўца, не толькі таму, што мела адпаведную адукацыю і працоўны досвед, але найперш таму, што добра разумела іхнія праблемы. Галіна Георгіеўна ўмела канцэптуальна мысліць, удзельнічала ў распрацоўцы ўсіх адпаведных законапраектаў, у тым ліку пра гарантыі вайскоўцам, якія вярталіся ў Беларусь, асабіста займалася ацэнкай небяспекі і будучым лёсам расійскай радыёлакацыйнай станцыі сачэння пад Ганцавічамі. У гэтым сэнсе вельмі паказальна, як лёгка яна вывела мяне на генерала Яўгена Бачарова, на жаль — ужо нябожчыка, які кіраваў тады памежнымі войскамі. Менавіта ён рэцэнзаваў канцэпцыю вайсковай рэформы Партыі БНФ на пачатку 2000-х гадоў.

Усё гэта сведчыць аб тым, што, як і Раса Юкнявічэне ў Літве, Сямдзянава таксама магла стаць міністрам абароны, бо ў гэтай цывільнай жанчыны былі адпаведныя задаткі, каб займаць такую адказную пасаду.

Чыста па-чалавечы Галіна Георгіеўна — вельмі надзейны, таварыскі, жыццярадасны і жартаўлівы чалавек. І чалавек не інтрыгоўны. Калі яна вызначала для сябе чыюсьці непрыстойнасць, дык гэта не асабліва хавала. Таму Сямдзянава і нажывала ворагаў. І ва ўладзе, і ў Беларускім Народным Фронце.

У Партыі БНФ ёй імпанавала адкрытая палітыка — гатоўнасць дамаўляцца з патэнцыяльнымі саюзнікамі, адмова ад дэкларавання сябе ісцінай у апошняй інстанцыі, пошук тактыкі дзеля таго, каб адклікацца на інтарэсы народа і не застываць у догмах. Але пры гэтым — маральнасць і непарушнасць прынцыпаў.

Часам яе апаноўваў песімізм, але з гэтага зусім не вынікала, што яна апускала рукі. Ні ў якім разе. Наадварот, яна заўжды адчувала высокую адказнасць. Страшэнна перажывала, напрыклад, пасля таго, як не быў пацверджаны яе статус намесніцы старшыні Партыі БНФ. Для яе гэта быў балючы ўдар — не па амбіцыях, а менавіта таму, што на гэтай фармальнай пасадзе, якая нясе не прывілеі, а рызыку, удары і шышкі, яна магла прынесці яшчэ нямала карысці Беларусі. Але Сямдзянава пераадолела крыўду і вярнулася да актыўнай працы, асабліва ў выбарчых кампаніях. Апошні яскравы яе вычын — гэта праца ў Мінскай гарадской выбарчай камісіі падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў, дзе менавіта яна ставіла самыя вострыя пытанні, грунтуючыся на паведамленнях з месцаў, знянацку пранікала на рознага кшталту закрытыя нарады. І прадстаўнікі ўлады пабойваліся Галіны Георгіеўны.

Старшыня сталічнай выбарчай камісіі Ігар Карпенка дэманстраваў ёй вонкавую павагу. Напярэдадні пахавання Сямдзянавай пагадзіўся, каб яна была аддадзена зямлі хаця б на Гаронавай алеі Паўночных могілак, а ў дзень пахавання дапамог з транспартам і асабіста прыйшоў развітацца. Хаця яна зусім нядаўна не пакідала жывога месца ад гэтай выбарчай камісіі. Такое стаўленне да Сямдзянавай сведчыць, што апаненты яе таксама паважалі.

У кожнага народа ёсць свой пантэон: у грузін — гара Мтацмінда ў Тбілісі, у літоўцаў — могілкі Роса і Антокальскія ў Вільні, у палякаў — некропаль Павонзкі ў Варшаве. І калі ў такі пантэон прыйдзе дзіця ці малады чалавек, яны ўбачаць на надмагіллях імёны тых, хто стаяў за гэты народ і тварыў гэтую дзяржаву. Галіна Сямдзянава як адна з тых, хто стварыў нашу новую дзяржаву і адстаяў яе незалежнасць, заслугоўвала, безумоўна, Усходніх могілак. Калі гэта ўжо зразумеюць тыя, хто ўладу мае, што смяротныя ўсе і што кожнаму паводле вычыну яго будзе прысуджана ці памяць народная, ці народнае забыццё? Бо гісторыя не памыляецца. Рабіліся захады, каб пахаваць Галіну Георгіеўну на Усходніх могілках, але, на жаль, аказалася, што ўлада мысліць іншымі катэгорыямі. У Літве дзяржава ўшанавала тых людзей, хто яе стварыў. Дэпутаты парламента, якія прынялі Акт незалежнасці Літвы, называюцца сігнатары. У іх ёсць свой Дом сігнатараў у цэнтры Вільні, вялікія пажыццёвыя пенсіі. І дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР, якія 25 жніўня галасавалі за аднаўленне незалежнасці Рэспублікі Беларусь, таксама заслугоўваюць такога ўшанавання. Гэта прыкмета сталасці дзяржавы і народа.



24 жніўня 1991 года. Галіна Сямдзянава не пускае Анатоля Малафеева на трыбуну.

## *Не дзеля піяру*

*Свае ўспаміны пра Сямдзянаву працягвае* ***Сяргей Навумчык:***

— Для нас было вельмі важна, што вясной 1991-га рабочыя, удзельнікі красавіцкага страйку, падтрымалі наша патрабаванне аб наданні Дэкларацыі аб суверэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы. У спісе патрабаванняў былі таксама вывад камуністычных парткамаў з прадпрыемстваў і новыя выбары ў Вярхоўны Савет. 24 красавіка нас запрасілі на пасяджэнне прэзідыума Вярхоўнага Савета. Мы пайшлі, а Галіна Сямдзянава засталася ў 363-м пакоі падтрымліваць тэлефонную сувязь з Оршай. Вёў пасяджэнне Станіслаў Шушкевіч, які, на здзіўленне, быў на баку камуністычнага кіраўніцтва. У мяне захаваўся пратакол таго пасяджэння. Сябры прэзідыума адзін за адным абвінавачвалі нас у дэстабілізацыі абстаноўкі, а адзін член прэзідыума, вельмі вядомы ў краіне чалавек, сказаў, што дамаўляцца са страйкоўцамі "няма ніякага сэнсу: яны не ўспрымаюць чалавечае слова" (гэта пра тыя сто тысяч самага што ні ёсць народу, які сабраўся на плошчы!). Выступалі старшыня КДБ, міністр унутраных спраў. Генеральны пракурор Георгій Тарнаўскі абураўся, што сакрэтная інфармацыя, падрыхтаваная для прэзідыума, праз некалькі гадзін аказвалася ў страйкаме (у апараце Вярхоўнага Савета ў мяне былі "свае" людзі, і не бачу прычыны, з якой павінен быў хаваць такую інфармацыю, калі яна патрапіла да мяне. Зрэшты, так рабіў не я адзін). Старшыня Вярхоўнага суда пералічыў артыкулы Крымінальнага кодэкса, якія нам і страйкаму "свяцілі" (не было сумневу, што дэпутацкі імунітэт Вярхоўны Савет з нас зняў бы). Кульмінацыйны момант быў, калі Сямдзянава ўвайшла ў залу і перадала паведамленне з Оршы: "Калі праз 7 хвілін не будзе адказу, людзі лягуць на рэйкі". І рабочыя сапраўды блакіравалі чыгунку, рух спыніўся на некалькі гадзін. Тыя, хто ехаў у Парыж з Масквы ці з Парыжа ў Маскву, можа, упершыню ў жыцці запыталіся: "А чаго яны хочуць, гэтыя беларусы?" У тыя дні на першых палосах вядучых газет свету былі словы, што самая ціхая, рахманая рэспубліка СССР выказала пратэст яго камуністычнаму кіраўніцтву.

У Галіны Сямдзянавай была вельмі важная якасць — здольнасць канцэнтравацца на руціннай працы. Тыя, хто глядзеў сесіі па тэлебачанні, найбольш ведалі дэпутатаў, што маглі выступаць з трыбуны ці ўдзельнічаць у дыскусіі. Я не хачу ні ў якім разе прыменшыць гэтыя якасці — парламент (калі ён сапраўдны) па сваім вызначэнні — гэта дэбаты, і калі ты не ўмееш гаварыць — не пераканаеш апанентаў і ў выніку не пераможаш. Такім аратарскім майстэрствам Галіна валодала цудоўна. Памятаю, як востра яна выступала, калі ў чэрвені 1991-га мы абмяркоўвалі вынікі працы часовай камісіі па Чарнобылі. Тады дэпутаты, якія былі сябрамі Беларускага Народнага Фронту, у тым ліку і Сямдзянава, назвалі імёны тых, хто быў вінаваты ва ўтойванні праўдзівай інфармацыі пра наступствы выбуху на ЧАЭС. Але Сямдзянава не толькі шукала вінаватых — яна з болем гаварыла пра тое, што чарнобыльскае злачынства працягваецца, што на забруджаных тэрыторыях жывуць людзі і збіраецца "забруджаны" ўраджай, што начальства хавае сапраўднае радыеактыўнае становішча ў так званых "чыстых" раёнах... У Галіны былі дзясяткі бліскучых прамоў.

Але тое, што адбывалася ў Авальнай зале, — гэта было на паверхні. А вось у кабінетах ішла праца над законапраектамі і эканамічнымі праграмамі. Дэпутаты, якія вылучаліся ў парламент Беларускім Народным Фронтам, за тыя гады падрыхтавалі пяць эканамічных канцэпцый і дзясяткі законапраектаў, прычым міжнародныя эксперты далі высокую ацэнку гэтым дакументам. То была нябачная, калі хочаце — няўдзячная, руцінная праца, і вельмі вялікая доля ў арганізацыі гэтай працы, кансультацыях з экспертамі, выпрацоўцы фармулёвак належала якраз Галіне Сямдзянавай. Яна рабіла гэтую працу ціха, сціпла, не пад тэлекамеры і не дзеля, як цяпер кажуць, ўласнага піяру — але рабіла яе сістэмна ўсе тыя пяць з паловай гадоў, што існавала наша парламенцкая апазіцыя. Пакой №363 нашай дэпутацкай фракцыі быў побач з маім кабінетам сакратара камісіі Вярхоўнага Савета па пытаннях галоснасці, СМІ і правоў чалавека, мы часта працавалі разам. Здаралася, я казаў: "Галя, дзесяць гадзін вечара ўжо, давай астатняе заўтра даробім" (мне да Уручча на метро і потым на аўтобусе было дабірацца мінімум хвілін сорак), і чуў у адказ: "Не, Сяргей, заўтра будзе іншае. Ты як хочаш, я застаюся". Ну, натуральна, заставаўся і я... Увогуле, наш рэальны працоўны дзень у тыя гады быў гадзін 15—16, а часам і больш. Дадайце сюды вялізнае нервовае напружанне. Здароўя гэта, канешне, не дадало.

## *Наша Жанна д'Арк*

*Пра Сямдзянаву распавядае дэпутат Вяхоўнага Савета 12-га склікання, беларускі паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі* ***Анатоль Вярцінскі:***

— У Галіны, калі яна выходзіла на трыбуну, была такая манера — заўсёды ставіць пытанні абсалютна прынцыпова, рубам, каго б гэта ні тычылася, у тым ліку і сваіх аднадумцаў па апазіцыі.

Мне падабалася, што на мае цытаванні сваіх вершаваных радкоў і беларускай паэзіі Сямдзянава адказвала страфамі з паэтычнай сусветнай класікі, у тым ліку — з Мікалая Някрасава: *"Люди холопского звания — сущие псы иногда: чем тяжелей наказание, тем им милей господа".*

Як жанчына, Галіна была абаяльная, элегантная, заўсёды дагледжаная, з густам апранутая. У той жа час — у нечым загадкавая, бо занадта палітызаваная, зацята змагалася за праўду-матку і часам набліжалася да светлага вобразу арлеанскай дзевы Жанны д'Арк. Разам з тым гэтая ўнікальная жанчына выклікала вялікую павагу выразнай грамадзянскай пазіцыяй чалавека, які сваімі каранямі аніяк не быў звязаны з Беларуссю, пражыў тут усяго некалькі гадоў, але вывучыў беларускую мову і аддана абараняў беларускія нацыянальныя каштоўнасці.

## *Выпадак на дарозе*

*Пра цікавы выпадак, які характарызуе Сямдзянаву, успамінае намеснік старшыні парламенцкай фракцыі дэпутатаў, якія аднячасова з'яўляліся сябрамі Беларускага Народнага Фронту,* ***Алег Трусаў:***

— На пачатку нашай дэпутацкай дзейнасці ў Вярхоўным Савеце 12-га склікання разам з сябрамі па фракцыі на чале з Зянонам Пазьняком мы на некалькіх аўтамабілях накіраваліся ў Магілёў на мітынг. Дзень быў пахмурны, ветраны і халодны. Не паспелі ад'ехаць ад Мінска, як камень выбіў лабавое шкло "Волгі", якраз насупраць Галіны Георгіеўны. Але ж яна не вярнулася ў сталіцу, а, прыкрыўшыся нечым ад ветру, так і праехала моўчкі амаль дзвесце кіламетраў, лічы, у адкрытай машыне. Узнагародай за гэтае выпрабаванне і яе цярпенне сталі шматлікія бел-чырвона-белыя сцягі, якімі на пад'ездзе да горада віталі нас радасныя магілёўцы.

## *Шлях у апазіцыю*

*Пра сваю сяброўку распавядае* ***Валянціна Свяцкая:***

— Пазнаёміліся мы з Сямдзянавай у 1996 годзе. У яе было цяжкае гарнізоннае дзяцінства, бо яна вырасла ў сям'і вайскоўцаў: бацька і айчым былі афіцэрамі, а потым сама жыла ў сям'і вайскоўца — яе муж быў ракетчыкам і служыў на Кольскім паўвостраве і ў Казахстане. Маці яе была ўкраінкай, а бацька — рускім. Паколькі яны абодва прайшлі вайну, патрыятычныя традыцыі шанаваліся ў сям'і не толькі на словах. Галіна вельмі любіла айчыма, бо ён як родных прыняў іх з малодшай сястрой Ліляй (жыве ў Кіеве); потым нарадзілася яшчэ адна сястра — Марына, якая зараз жыве ў Анапе. Галіна вельмі паважала айчыма, называла яго бацькам, бо ў цяжкую хвіліну ён першы яе падтрымліваў. Генеральская дачка, яна не была распешчанай паненкай, а сама, без усялякіх патуранняў прабівала сабе дарогу ў жыццё і ўсё даказвала сваім характарам і праніклівым розумам: школу скончыла з залатым медалём, інстытут — з чырвоным дыпломам. Яна вельмі рана пачала чытаць, любоў да кнігі пранесла праз усё жыццё і старалася прышчапіць яе сваім дзецям і ўнукам.

Яе калісьці ў дзяцінстве бацькі прывезлі да знаёмых у Беларусь — у Баранавічы і Навагрудак. І гэтыя незабыўныя ўражанні дзяцінства ад добрых беларусаў, якія цёпла прымалі іх сям'ю, так адкладаліся ў памяці Галіны Георгіеўны, што пры першай нагодзе яна пераехала ў Беларусь, у Навагрудак. Спачатку працавала ў райсельгасхіміі, а потым — у гарадскім камітэце народнага кантролю. У гады татальнага дэфіцыту разам з калегамі яна рабіла "набегі" на крамы, дзе народ ужо чакаў яе ў спадзяванні на тое, што зараз з-пад прылаўкаў нешта "выкінуць" і можна будзе атаварыцца. Калі да Галіны ў Навагрудак прыехала ў госці з Кіева яе малодшая сястра Ліля, яна сказала: "Ой, Галю! Каб я была ў народным кантролі, мне б усё дахаты насілі і я б у шакаладзе хадзіла!" Але ў адказ пачула: "Вось чаму ты і не ў народным кантролі..."

А калі пачалася перабудова, гэты чалавек з гонарам, годнасцю і сумленнем пайшоў у парламент. Прычым работнікі Навагрудскага аўтапарка самі прапанавалі Сямдзянавай вылучыцца кандыдатам у дэпутаты. Яна не задавальняла ўладу, бо працавала сумленна, не ўпісвалася ва ўяўленні чынавенства пра партыйную кар'еру і была для наменклатуры не сваёй, а нейкай дзікарослай і калючай. Вось чаму падчас вылучэння ў дэпутаты на Галіну Георгіеўну быў выліты шалёны паток бруду. Гэта яе абурыла, тым больш што яна была сапраўды незалежным кандыдатам. За Сямдзянаву ішлі розныя людзі, у тым ліку і рабочыя, якія бачылі ў ёй сапраўднага чалавека, усё для яе рабілі і гатовыя былі за яе падняць на вілы партнаменклатуру. І яна насамрэч перамагла, нягледзячы на вялікі супраціў чынавенства. І вось гэтая кволая з першага погляду жанчына пачала працаваць у парламенце.

Але, калі яна прыйшла ў Вярхоўны Савет, першы сакратар ЦК КПБ Анатоль Малафееў не запрасіў яе, сябра КПСС, на першае пасяджэнне дэпутатаў-камуністаў. Яны нават не зразумелі, што самі падштурхнулі Сямдзянаву да апазіцыі. Але яна прыйшла туды не таму, што была падкрыўджана камуністамі, а таму, што была самастойнай.

Вялікую ролю ў яе станаўленні адыграла і галоснасць, з якой пачаліся публікацыі пра масавыя рэпрэсіі часоў сталінізму, у тым ліку — знакаміты артыкул Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва "Курапаты — дарога смерці", упершыню надрукаваны 3 чэрвеня 1988 года ў газеце "Літаратура і мастацтва", галоўным рэдактарам якой быў Анатоль Вярцінскі. Мабыць, і бацька яе пражыў бы больш, калі б не гэтыя публікацыі, хаця сам ён быў чалавекам дэмакратычных поглядаў і не мог дараваць маршалу Жукаву таго, што той не шкадаваў жыццё салдата на вайне.

Хоць дэпутаты-камуністы яе і не звалі, яна прыйшла да іх, у апошні раз паслухала, а потым пайшла да тых дэпутатаў, што з'яўляліся сябрамі Беларускага Народнага Фронту і гуртаваліся вакол Зянона Пазьняка, якога раней, з падачы афіцыйнай прапаганды, ахрысцілі "фашыстам". Яна ціхенька села і пачала прыслухоўвацца да таго, аб чым яны гавораць. Гаварылі ж яны пра тое, што балела і ёй. Так яна і засталася ў апазіцыі. А паколькі ў гэтай парламенцкай фракцыі Галіна Георгіеўна адказвала за справаводства, дык першай прыходзіла на працу і апошняй сыходзіла.

Яна была добрым сувязным звяном паміж апазіцыйнай і наменклатурнай фракцыямі парламента, бо ўсе дэпутаты паважалі Сямдзянаву за яе інтэлігентнасць, няздольнасць на здраду і падман. Аднак Галіна Георгіеўна правярала любую атрыманую інфармацыю, што сведчыць пра яе адказнасць, грунтоўнасць і дальнабачнасць. Пры падрыхтоўцы праектаў дакументаў яна вельмі старанна працавала над кожным словам. Вось чаму пасля Сямдзянавай праекты не трэба было дапрацоўваць і перапрацоўваць. Для яе галоўнымі ў чалавеку былі як прафесійныя, так і маральныя якасці. Вельмі сціплая, яна ніколі не гандлявала сваёй знакамітасцю. І калі яе дзесьці нехта пазнаваў, яна адчувала сябе няёмка.

Беларусь стала для Сямдзянавай радзімай. І калі сышла на пенсію, адмовілася ад запрашэння сястры Лілі пераехаць да яе ў Кіеў, хоць жыццё было не салодкім.

Яна была пастаяннай у сваіх захапленнях і сімпатыях, яркай і запамінальнай жанчынай, не такой, як усе, сама магла сабе нешта звязаць і сшыць, а сваю аднапакаёвую кватэру ператварыла ў сапраўдны батанічны сад...

На жаль, магутны патэнцыял гэтай цудоўнай жанчыны так і не быў запатрабаваны дзяржавай, а яе заслугі перад незалежнай Рэспублікай Беларусь яшчэ чакаюць сапраўднай ацэнкі. Сваё жыццё Галіна Сямдзянава паклала на алтар дэмакратыі, хаця ў апошні час, калі цяжка хварэла, не хадзіла на барыкады і не закрывала сабою амбразуру...

Дарэчы, падчас галадоўкі дэпутатаў у Авальнай зале парламента 11—12 красавіка 1995 года Сямдзянава наладжвала сувязь паміж дэпутатамі, якія аб'явілі галадоўку, Вярхоўным Саветам і БНФ. Гэтыя падзеі яна так апісала ў сваіх успамінах "Сярод "маўчання ягнят".

## *Яна была з імі*

***З кнігі Яўгена Анішчанкі "Эвакуацыя апазіцыі":***

— Я вельмі актыўна выступала ад усіх мікрафонаў, і мне імгненна давалі слова, агучвала прапановы галадаючых, выконвала іх просьбы, стэлефаноўвалася з прадстаўнікамі кіраўніцтва БНФ, дамаўлялася аб забеспячэнні спальнікамі, вадой, інфармавала аб магчымым развіцці падзей, дарэчы, яны менавіта так і развіваліся. Пасля заканчэння пасяджэння парламента галадаючыя засталіся ў зале, а я забрала з іх кабінетаў у Вярхоўным Савеце сякія-такія дакументы. Калі я была ў гасцініцы, мы рэгулярна перазвоньваліся з Валянцінам Голубевым і Зянонам Пазьняком. Я была ў курсе манеўраў, якія праводзіліся ў Доме ўрада. Сярод ночы пазваніў Пазьняк, паведаміў, што ў залу ўварваліся людзі ў масках, і "вёў рэпартаж", пакуль да яго не падскочылі гэтыя "пакемоны". Я адразу пазваніла дзяжурнаму па ВС, у пасольствы, у прэсу. Калі дэпутаты сярод ночы сабраліся каля будынка парламента, яны пайшлі ў гатэльны нумар Лявона Дзейкі. Я была з імі.

*Гэтыя ўспаміны Сямдзянавай дапаўняе* ***Сяргей Навумчык:***

— Пэўна, гаворачы пра нашу галадоўку, Галіна мае на ўвазе падзеі, што адбыліся за дзве гадзіны да нашага збіцця. Тады ў Авальную залу ўвайшлі сапёры — шукаць "бомбу". Мы з Галінай сапраўды былі на тэлефоннай сувязі, яна расказвала Пазьняку, што робіцца па-за сценамі Дома ўрада, а Пазьняк інфармаваў пра нашыя дзеянні. Ну а ў 2-й гадзіне ночы, калі ў залу ўвайшлі начальнік прэзідэнцкай аховы, а потым ўварваліся афіцэры падраздзялення КДБ "Альфа", спецназ у шлемах і з "калашнікавымі" — тут, канешне, было не да размоў. Тут усё адбылося ў лічаныя хвіліны. Пазьняк якраз сядзеў перада мной, я паспеў убачыць, як на яго навалілiся двое ці трое і адзін пачаў выціскаць яму вочы. Увогуле, білі даволі жорстка. Мне якраз спачатку перапала меней, бо сядзеў у цэнтры групы, затое калі выносілі і калі цэнтральныя дзверы Авальнай залы зачыніліся, дык іх адчынілі маёй галавой, як таранам. Нас збівалі і калі цягнулі па сходах у двор Дома ўрада. Як бульбу, пакідалі ў "варанкі" і выкінулі каго дзе ў цэнтры горада. Сабраліся ў гасцініцы "Кастрычніцкая" (здаецца, у нумары Лявона Дзейкі), Галіна Сямдзянава адразу была з намі. Яна была з намі і ў "лечкамісіі", дзе зрабілі медыцынскі агляд, потым пайшлі ў пракуратуру. Да раніцы мы абмеркавалі сітуацыю і прапанавалі кіраўніцтву Вярхоўнага Савета план дзеянняў. Сямдзянава прымала актыўны ўдзел у выпрацоўцы тактыкі. І я скажу, што, калі б тагачасны старшыня ВС Мечыслаў Грыб пагадзіўся з намі, — дні Лукашэнкі як прэзідэнта былі б палічаныя.

(Заканчэнне на 4-й стар.)

БЕЛАРУСЬ У АСОБАХ

# Галіна Сямдзянава

(Заканчэнне
Пачатак на 3-й стар.)

Па-першае, мы прапанавалі перанесці сесію ў будынак Вярхоўнага Савета (тады яго апарат месціўся не ў Доме ўрада, а ў былым будынку ЦК КПБ, які потым заняла Адміністрацыя прэзідэнта). Можна было арганізаваць ахову будынка так, што ён стаў бы фарпостам. І прыняць рашэнне пра незаконнасць "рэферэндуму" аб змене сімволікі, двухмоўі і праве прэзідэнта распускаць парламент. Па-другое, назаўтра пасля збіцця я павінен быў прадстаўляць у Канстытуцыйным судзе пазіцыю больш як 120 дэпутатаў Вярхоўнага Савета аб манапалізацыі прэзідэнтам СМІ. У той дзень мы абмяркоўвалі, якім чынам мне выступаць. Ці зрабіць свайго роду выкрывальны працэс, распавёўшы членам Канстытуцыйнага суда пра збіццё дэпутатаў, заявіць, што ўжо не да манапалізацыі, бо пяройдзены ўсе дапушчальныя межы, ці казаць выключна па тэме СМІ, апелыруючы прававымі, а не палітычнымі аргументамі. Я схіляўся да другога варыянта, і мяне ў гэтым падтрымалі Пазьняк і Сямдзянава. Так і выступаў: парушаны такі пункт закона, такі раздзел Канстытуцыі, вось тут спадар прэзідэнт праігнараваў такое і такое палажэнне закона... На членаў Канстытуцыйнага суда, якія ведалі, што адбылося ўначы ў Авальнай зале, гэта зрабіла ўражанне, аргументацыя наша спрацавала і 14 красавіка 1995 года: Канстытуцыйны суд прызнаў парушэнне Лукашэнкам Канстытуцыі ў пэўных рашэннях. Дык вось гэтая падзея пры наяўнасці палітычнай волі ў кіраўніцтва Вярхоўнага Савета магла стаць пачаткам працэдуры імпічменту, бо далей парушэнні Лукашэнкам Канстытуцыі нарасталі як снежны ком. Але ў кіраўніцтва Вярхоўнага Савета, і ў першую чаргу таго ж Мечыслава Грыба, не было і дзясятай часткі той палітычнай волі, якой валодала Галіна Сямдзянава.

А вось як яна распавяла пра сустрэчу галадоўшчыкаў са сваімі калегамі:

— У зале сядзелі прыціхлыя, напалоханыя дэпутаты і "зусім іншыя" (не такія, як на сваіх пасяджэннях) сябры прэзідыума. Раптам дзверы адчыніліся, і ў залу літаральна ўварваліся нашы дэпутаты. Як выявілася, яны ўзялі штурмам уваход у Дом урада. Апазіцыя стала апісваць сітуацыю, але парламенцкая "большасць" была дэмаралізавана. Нашы дэпутаты, многія з якіх былі пазбіваныя, працягвалі галадаваць, аднак яны сустракалі варожыя позіркі, чулі прыніжальныя выбрыкі ў свой адрас. І самае галоўнае: наш народ застаўся глухім і нямым. Працяг галадоўкі не меў сэнсу. Апазіцыя сказала сваё слова. Хто хацеў яго пачуць — пачуў.

## Крокі ў гісторыю

Галіна Сямдзянава нарадзілася 28 лютага 1947 года ў Гдыні (Польшча) у сям'і ўдзельнікаў Другой сусветнай вайны — савецкага марскога афіцэра і старшай аперацыйнай сястры ваеннага шпіталя.

Айчым Якаў Іванавіч Казлоў, які выхоўваў Галіну, быў ваенным лётчыкам-знішчальнікам. У вайну яго самалёт быў збіты, а сам ён цяжка паранены, страціў ступню, яго павінны былі камісаваць, але ён вярнуўся ў строй і працягваў лятаць. Пасля вайны некаторы час служыў у Беларусі. Закончыў службу генерал-маёрам.

Пасля заканчэння Куйбышаўскага політэхнічнага інстытута па спецыяльнасці "хімік-падрыўнік" Галіна працавала ў абароннай прамысловасці на інжынерскіх пасадах, а па вяртанні ў Беларусь — інспектарам Навагрудскага гарадского камітэта народнага кантролю Гродзенскай вобласці. У 1990 годзе была абрана народным дэпутатам Вярхоўнага Савета ад Навагрудскай выбарчай акругі №262.

Неацэнныя заслугі Сямдзянавай у стварэнні заканадаўчай базы незалежнасці Беларусі. Яна — сааўтар канцэпцыі пераходу БССР да рынкавай эканомікі, удзельнічала ў распрацоўцы і прыняцці дзясяткаў заканадаўчых актаў, у тым ліку Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, законаў для пазачарговай сесіі парламента 24—25 жніўня 1991 года, калі была абвешчана незалежнасць краіны. Галіна Георгіеўна — аўтар заканадаўчых прапаноў, накіраваных на стварэнне арміі Рэспублікі Беларусь, старшыня беларускай асацыяцыі вайскоўцаў "Вяртанне", якая пасля распаду СССР дапамагла вярнуцца ў Беларусь больш як чатыром тысячам вайскоўцаў, у тым ліку — з зон узброеных канфліктаў.

У Партыі БНФ Сямдзянава была намеснікам старшыні, кіравала юрыдычнай і рэвізійнай камісіямі. У 1996—1997 гадах працавала ў сакратарыяце Вярхоўнага Савета. У 2007 годзе была сябрам Цэнтральнай камісіі па выбарах і рэспубліканскіх рэферэндумах, у 2010 годзе — сябрам Мінскай гарадской камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Прычым Сямдзянава не прызнала вынікі гэтых выбараў у сталіцы з-за шматлікіх парушэнняў заканадаўства і "непрапарцыянальнае пакаранне за выказанае грамадзянамі незадавальненне вынікамі выбараў у дзень галасавання". Дарэчы, падчас удзелу Сямдзянавай у выбарчых кампаніях невядомыя не аднойчы тэлефанавалі ёй і грукалі ў дзверы, пагражаючы сілай уварвацца ў кватэру.

Галіна Георгіеўна памерла ў ноч на 18 верасня 2011 года і пахаваная на Ганаровай алеі Паўночных могілак Мінска.

## Своеасаблівая зорка

***Зянон Пазьняк (з кнігі "Слова пра калег і сяброў"):***

— Галіна Сямдзянава (без перабольшвання скажу) была своеасаблівай зоркай нашай Апазіцыі. Асабліва яна стала вядомая, калі 24 жніўня 1991 года на сесіі Незалежнасці дэпутаты кінуліся напярэймы вытурваць Малафеева. Тут яна сваёй рашучасцю сыграла галоўную ролю, загарадзіўшы "персеку" дарогу і не пускаючы яго на трыбуну (...) Цяпер гэта ўспрымаецца спакойна, некаторымі нават весела, але тады было не да жартаў (гэта быў вельмі важны момант на сесіі).

Як і да ўсялякай жанчыны, да Сямдзянавай павінен быў быць падыход. Здаецца, усе рыцары нашай Апазіцыі выдатна гэта разумелі, але, што цікава, у зале сесіі ці не самым дакладным (у сэнсе выканання тактыкі) і дысцыплінаваным рыцарам была якраз Галіна Сямдзянава. Яна заўсёды выконвала тое, пра што дамовіліся, усялякія змены ці новыя павароты тут жа ўзгадняла, выдатна бачыла залу і адчувала яе настрой, тут жа (праз запіску ці іншым спосабам) інфармавала старшыню Апазіцыі. Увогуле, яна добра разумела стыхійную сутнасць таго Вярхоўнага Савета і псіхалогію наменклатуры, умела міла перакінуцца свецкімі слоўцамі з якімі-небудзь "товарищами" і шмат даведацца...

**Марат ГАРАВЫ.**



**2000 год, Мінск. Галіна Сямдзянава з сябрамі — намеснікам старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь 13-га склікання Генадзем Цярэнем і Валянцінай Сяяцкай.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# Бяда

**Згодна з апытаннямі сацыёлагаў, беларусам санкцыі Еўрасаюза абыякавыя. А тым болей іх "не казыча" магчымы перанос з Беларусі чэмпіянату свету па хакеі...**

*У сельскім злагадным народзе,*
*Прынамсі, так было заўжды:*
*На ўскрайку вёскі, на калодзе,*
*Заселі ўвечары дзяды.*
*Ну што ў старых заўжды на мэце?*
*"Варушыць" кожны ў галаве,*
*І што там дзеецца на свеце,*
*І як краіна ў нас жыве.*
*У векавечнага Кірэя*
*Адзіны толькі клопат ёсць:*
*— Хвалюе, бач, мяне Карэя,*
*Для свету бытта ў горле косць.*
*Нядаўна зладзіла ракету...*
*Вы чулі етае ці не?*
*А што калі ігрушку ету*
*Дый на Расію бамбане?*
*— Не бамбане, бо мецьме здачы, —*
*Перапыніў сусед Іван. —*
*А болей важная задача —*
*Як улагодзіць нам Іран.*
*Паставіць у заліве міны*
*І скажа: гэтак і было.*
*Каб еўрапейскія краіны*
*Не мелі нафты... Во дзе зло!*
*— Амерыка прамовіць слова... —*
*Заўвага мудрага Іллі.*
*І пакрыёма, паступова*
*Да спраў найблізкіх перайшлі.*
*Сказаў Піліп Івану:*
*— Дружа,*
*То ж гора для ўсяго сяла:*
*Еўропа нас не любіць дужа,*
*Вунь, кажуць, санкцыі ўвяла...*
*Цяперка нашае начальства*
*Не можа ездзіць за кардон.*
*Быў Бацька там і так не часта...*
*Куды ж цяпер паткнецца ён?*
*Ды ёсць пярэчанне ў Ігната:*
*— Ты не плявузгай што не след.*
*У Бацькі выбар ёсць багаты,*
*Катар, Кітай і Эміраты —*
*Лічы, увесь астатні свет.*
*А што не ездзяць у замежжа*
*Цяперка нашыя чыны,*
*Дык гэта вуха мне не рэжа,*
*Бо траціць грош дарма яны.*
*— Але ж і нашы мільянеры*
*Не могуць выехаць, бадай...*
*— А ім Еўропа на халеры,*
*Калі Егіпет ёсць, Кітай?*
*І калі ўжо пайшло на прынцып —*
*Што Люксембург? Навошта ён?*
*І тут ты жыцьмеш шахам-прынцам,*
*Калі ў кішэні ёсць мільён.*
*У рэшце рэшт прыйшлі да згоды:*
*Народу санкцыі — не зло.*
*Яны — пустое для народа,*
*Карове, мовіць так, сядло...*
*Пытанне выспела ў Карпея*
*(І пра яго ён думаў шмат):*
*— А як нам быць наконт хакея?*
*Ці будзе ў нас чэмпіянат?*
*Я чуў, што етыя буржуі*
*Імкнуцца ў нас яго забраць.*
*Нядобра ета, вам скажу я.*
*Каб іх панос прабраў, птамаць...*
*Яго абсек Іван:*
*— Ды годзе!*
*Хакей мне ў галаве ніяк...*
*Як быў малы, ганяў па лёдзе*
*Замерзлы, цвёрды каравяк.*
*Дык то ж было даўно, калісьці...*
*Цяпер не клюшкі — кастылі...*
*Хадзіць бы (больш было б карысці)*
*Нам не па лёдзе — па зямлі...*
*У прэзідэнта ёсць праблемы,*
*А нам гуляць няма калі...*
*І спакваля да іншай тэмы*
*Дзяды-вяскоўцы перайшлі.*
*— Вам зараз, мусіць, млосна стане, —*
*Сказаў Піліп, крывы як крук. —*
*Але ў маёй суседкі Мані*
*Учора здох-сканаў парсюк.*
*Парсюк быў спраўны, гадавалы*
*І важыў дзесьці сто кіло.*
*І нам бы штосьці перапала,*
*Калі б усё як след было...*
*Ілля, мацак сівагаловы,*
*Сказаў (а быў ён з пахмяла):*
*— Каб прыкалоў своечасова,*
*Дык Маня трохі б наліла...*
*Пра парсюка вялі бяседу*
*Да ночы самае яны.*
*І кожнаму "балела" дзеду:*
*— Не будзе чаркі да абеду,*
*Не пакаштуем свежыны...*

МНЕНИЕ

## Не более двух сроков подряд

Уважаемая редакция!

В одном из июньских номеров прочитал статью Михаила Пастухова "Нужна ли Беларуси президентская власть?". Безусловно, с полномочиями президента явный перебор: например, руководители городов и областей должны избираться народом, а не назначаться. Решение о назначении на должность генерального прокурора, председателя Верховного суда, председателя Центризбиркома должен принимать парламент страны.

Но самое главное Пастухов упустил: срок нахождения на должности президента. По предыдущей Конституции время нахождения у власти президента ограничивалось двумя сроками по 5 лет. Этот пункт был в определенной мере дискриминационный: почему только два срока? Я считал, что в этот пункт добавят слово "подряд" и все станет на свои места, как это прописано в Конституции других стран: России, США, Украины и так далее.

Но поступили по-другому: взяли и выбросили из Конституции сроки нахождения президента у власти. Это недопустимо в стране, где президент имеет огромный административный ресурс, где отсутствует сильная оппозиция. Я считаю, что победить на выборах действующего президента, который держит в своих руках все силовые структуры, в нашей стране практически невозможно, поэтому президент должен находиться у власти не более двух сроков подряд.

**А.С.СМИРНОВ.**

*г.Бобруйск.*

SOS!

# Пока бюрократы занимаются болтовней, горячая вода уходит в песок

Уважаемая "Народная Воля"!

За помощью обращаются к вам жители г.Пинска, проживающие в домах №1,2,3,4 по улице Восточной, в доме №1 по улице Окоповой и в доме №11 по улице Урицкого. Повоздействуйте каким-нибудь образом на руководство ЖЭС №1, которое отказывается устранять недостатки и содержать в исправном рабочем состоянии свой тепловой узел.

Дело в том, что все наши дома подключены к тепловому узлу, расположенному во дворе дома №4 по улице Восточной. Теплоузел размещен так, что находится в земле на глубине два метра, одной своей стороной примыкает к стене дома и находится значительно ниже его фундамента. Задвижки бойлера в теплоузле неисправны, и горячая вода постоянно вытекает в камеру теплового узла.

18.06.2012 г. жильцы дома обратились к главному инженеру ЖЭС №1 С.И.Мелешко по данной проблеме.

20.06.2012 г. в 9.00 из теплоузла была выкачена вода. Но к 14.00 уровень воды был прежний, то есть составил 40 сантиметров при размерах тепловой камеры 2,35х1,46х0,4 метра. Объем горячей воды в камере составляет 1,37 метра кубического, а остальная вода переливается в лотки теплотрассы и уходит в землю.

Данная бесхозяйственность длится уже более года, то есть с того момента, когда руководство ЖЭС №1 закрыло на замок тепловой узел. Руководством ЖЭС №1 это было сделано осознанно, для того чтобы жильцы не видели, что часть труб и задвижек постоянно находятся в неисправном состоянии и в горячей воде.

Из-за такого содержания теплоузла в квартире №1 дома №4 по улице Восточной со стороны примыкания к дому пришел в негодность пол. Осенью 2011 года ЖЭС №1 вынуждена была начать ремонтировать пол в квартире №1, но полностью ремонт так и не закончили, заявив, что квартира приватизирована.

В квартире сыро, повышенная влажность, идет процесс разрушения фундамента и разрушения стен, но руководство ЖЭС №1 и не думает ремонтировать задвижки в теплоузле.

Но мы, жильцы домов, не выкупали тепловой узел. Регламентные работы по содержанию теплового узла ЖЭС №1 не проводит. Минувшей зимой сутками над теплоузлом стоял пар. Жильцы обращались в аварийную службу, которая устраняла течь, отключая дома от отопления на целый день.

Жители домов в 2011 году по данной проблеме обращались в Пинский межрайонный комитет государственного контроля, но ситуация не изменилась.

Мы предлагали руководству ЖЭС №1 открыть теплоузел, чтобы жильцы могли контролировать обстановку в теплокамере. Руководство ЖЭС №1 категорически нам отказало, заявив, что за состоянием теплового узла следят они, а нам нечего туда "нос совать".

Как руководство ЖЭС №1 следит за состоянием теплоузла, наглядно видно — полное запустение, так как теплоузел находится в неудовлетворительном состоянии.

20.06.2012 года мы дозвонились до Н.Ф.Костелея, заместителя главного инженера пинских ТЭС. Вышли также на главного инженера ЖКХ, связались с приемной председателя горисполкома, отделом по работе с обращениями граждан Брестского облисполкома, но положительного результата так и нет.

22.06.2012 года работники ЖЭС №1 вновь откачали воду из теплоузла, заменили одну сгнившую трубу.

26.06.2012 г. работники ЖЭС №1 покрасили кузбаслаком только часть трубы и другие трубы, при этом не обработали их даже от ржавчины, а теплоизоляцию даже не стали делать. Ремонтом задвижек не занимаются, объяснив это тем, что у них нет средств на это.

Пока бюрократы занимаются болтовней, тысячи кубических метров горячей воды ушли в землю. Стоит ли удивляться, почему цифры в жировках растут из месяца в месяц.

**Николай Дмитриевич ГЕРАСИМЧУК, пенсионер, инвалид 2-й группы;**
**Павлина Степановна САВИЦКАЯ, пенсионерка, инвалид 2-й группы;**
**Анастасия Константиновна ДРУГАК, пенсионерка, инвалид 2-й группы;**
**Грета Михайловна ЛУЦЫБО, пенсионерка, инвалид 3-й группы и другие.**

*г.Пинск.*

### ОТ РЕДАКЦИИ

**Авторы письма прислали в редакцию снимки, свидетельствующие о том, что проблема существует и ее нужно решать. К сожалению, из-за плохого качества фотографий поместить их на страницах газеты не можем.**

ЧУЛІ?

# Вы хочаце ведаць, хто вашы сапраўдныя бацькі?

Дзеці, якія дасягнулі дзесяці гадоў, цяпер самі змогуць выбіраць, з кім з бацькоў жыць пасля іх разводу. Такія змены ўнесены ў Кодэкс аб шлюбе і сям'і, які ўступае ў сілу 24 ліпеня.

Акрамя таго, па новым заканадаўстве, падлетак сам вырашыць, з кім з бабуль і дзядуляў мець зносіны, ці падабаецца яму апякун і ці можна вярнуць бацькоўскія правы яго маме і тату. Меркаванне дзіцяці па гэтых пытаннях, паводле новага закону, будзе адыгрываць галоўную ролю ў рашэнні суда.

Акрамя таго, любы грамадзянін, які дасягнуў паўналецця, цяпер зможа даведацца, усыноўлены ён ці не, і хто ягоныя сапраўдныя бацькі. Праўда, для гэтага трэба будзе звярнуцца ў суд.

Якія яшчэ змены нас чакаюць?

— Замест мінімальнага пятнаццацідзённага тэрміну для рэгістрацыі шлюбу ўстаноўлены трохдзённы тэрмін. А ў выпадках, абумоўленых цяжарнасцю, наяўнасцю агульнага дзіцяці або нейкіх асаблівых абставін, шлюб можа быць заключаны і раней — у тым ліку ў дзень падачы заявы.

— Зараз маладыя могуць падаваць заяву ў загс толькі па месцы жыхарства тых, хто ўступае ў шлюб. У адпаведнасці з новай рэдакцыяй артыкула 210 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб шлюбе і сям'і, зарэгістраваць шлюб можна будзе ў любым аддзеле загса рэспублікі.

— Па новай рэдакцыі Кодэкса, шлюб можа быць заключаны і за межамі загса. Праўда, такая паслуга з'яўляецца платнай.

— Адносна перамены імя (прозвішча, уласнага імя, імя па бацьку) замацавана норма, што названыя працэдуры могуць быць здзейснены толькі ў дачыненні да грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія дасягнулі шаснаццацігадовага ўзросту.

— Уводзіцца забарона на выдачу паўторнага пасведчання аб заключэнні шлюбу, калі гэты шлюб ужо скасаваны, і паўторнага пасведчання аб нараджэнні дзіцяці, калі бацькі пазбаўлены бацькоўскіх правоў.

— З 1 студзеня 2013 г. зменіцца парадак скасавання шлюбаў: у кампетэнцыю органаў загс пяройдзе скасаванне шлюбу паміж мужам і жонкай, якія не маюць агульных непаўналетніх дзяцей і спрэчак аб маёмасці.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Віцябчане ці віцябляне?

**У сувязі са "Славянскім базарам" у СМІ апошнім часам з'явілася шмат матэрыялаў з Віцебска, і зноў пайшла markрознагалосіца. Адны пішуць "віцябчане", другія — "віцябляне", а то і "віцьбічы" сустракаюцца. Дык як жа правільна?**

**М.Залесская, г.Мінск.**

Гісторыкі і краязнаўцы лічаць, што правільны варыянт "віцябляне". Па крайняй меры, здаўна, ва ўсіх летапісах і гістарычных дакументах ужываўся гэты тэрмін. "Віцябчане" з'явіліся толькі ў 1974-м, калі святкавалася 1000-годдзе горада. Тады для Пятра Машэрава ў Мінску пісалі выступленне і без усялякага намеру, проста па аналогіі з "мінчанамі", ужылі ў ім тэрмін "віцябчане". Але тое, што скажа першы партыйны кіраўнік, у той час лічылася "генеральнай лініяй". Вось у Віцебску і пачалі падладжвацца пад новую ўстаноўку.

Апошнім часам ужываюцца абодва словы. Хаця, напрыклад, Уладзімір Караткевіч лічыў, што трэба казаць "віцьбічы". Аднак у гістарычных дакументах такое слова не сустракаецца і, на думку моваўнаўцаў, з'яўляецца больш позняй формай.

STOP!

## Беларусы-парушальнікі патрапяць у Польшчы ў «чорны спіс»

Беларускія грамадзяне ў Польшчы ўсё часцей аказваюцца пад арыштам за парушэнне Правілаў дарожнага руху. У гэтым годзе ў Польшчы сталі прымяняцца больш суровыя меры да парушальнікаў ПДР, у прыватнасці павялічыліся памеры штрафаў. А да замежных грамадзян нават за нязначныя парушэнні можа ўжывацца мера стрымання ў выглядзе арышту.

Аўтамабіль замежніка, які прызнаў сваю віну на месцы, але не мае польскай валюты для выплаты штрафу, транспартуецца на паліцэйскую аўтастаянку і знаходзіцца там аж да аплаты штрафу. Пры сур'ёзным ДТЗ машына застаецца ў распараджэнні польскіх улад як мінімум да судовага рашэння.

Нагадаем, з сакавіка 2012 года ў Польшчы сталі больш жорсткімі пакаранні за парушэнні, якія часцей за ўсё прыводзяць да аварый. Напрыклад, размова па мабільным тэлефоне падчас руху па польскіх дарогах без прылады hands-free абыдзецца ў 200 злотых (каля 65 долараў).

Больш суровым становіцца пакаранне за паездку без прышпіленых рамянёў бяспекі — 100 злотых (больш за 30 долараў), прычым за непрышпіленых пасажыраў адказнасць нясе кіроўца.

Адсутнасць дзіцячага крэсла пры перавозцы дзяцей — 150 злотых (каля 50 долараў).

Ад 200—300 злотых (65—100 долараў) прыйдзецца заплаціць за няправільныя паводзіны датычна пешаходаў, 500 злотых (больш за 150 долараў) — за пакінутае аўто на так званым канверце (месцы, забароненым для стаянак).

Столькі ж злотых прыйдзецца аддаць за перавышэнне хуткасці.

Беларускія дыпламаты звяртаюць увагу, што схавацца ад аплаты штрафу не атрымаецца: калі няма грошай расплаціцца на месцы, то машына паркуецца на платны паліцэйскі паркінг і чакае гаспадара да таго часу, пакуль ён не прынясе квітанцыю аб аплаце.

Акрамя выплаты высокіх штрафаў, парушальнікам прыйдзецца сутыкнуцца з праблемай атрымання пасля польскіх і шэнгенвіз — парушальнікі аўтаматычна трапляюць у базу даных асоб, уезд якіх непажаданы на тэрыторыю краін Шэнгенскага пагаднення.

ОФИЦИАЛЬНО

## Эксперимент на себе

Порядка пяти тысяч работающих пенсионеров приостановили получение пенсий.

Об этом сообщила министр труда и социальной защиты **Марианна Щеткина.**

Напомним, что с 1 октября вступает в силу указ президента, который ввел своеобразное поощрение для тех, кто достиг пенсионного возраста, но продолжает работать, не получая пенсии. Таким людям государство обещает увеличить размер пенсии в будущем.

Экономисты, правда, посчитали, что работающим пенсионерам все-таки выгоднее получать пенсию и менять ее на валюту, таким образом накапливая "добавку к старости". Однако около 5 тысяч человек все-таки поверили государству.

РЭГІЁН

## У Магілёве зламаўся знакаміты кветкавы гадзіннік

*Не выключана, што на стрэлках нехта вырашыў пакатацца.*

Кветкавы гадзіннік з'явіўся ў Магілёве 15 чэрвеня 2010 года і стаў падарункам да свята горада. Механізм у ім рэгулюецца спадарожнікам праз GPS-сувязь, таму ў горадзе стала традыцыяй звяраць час менавіта па гэтым гадзінніку. Што стала прычынай паломкі, дакладна невядома. Як гавораць спецыялісты, аблом прывада стрэлак мог адбыцца з-за таго, што хтосьці вырашыў змяніць час або нават пакатацца на стрэлках.

Цяпер гадзіннікавы механізм знаходзіцца на рамонце на мінскім заводзе металаканструкцый "Профіт", дзе ён і быў выраблены. Спецыялісты абяцаюць вярнуць яго гораду як мага хутчэй.

